Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11
(Wilno, Ostrobramska 2—11)
Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.

№ 5 (14) Вільня, 8-га красавіка 1937 г. Год II.

## Паражэньне і Трыумф.

*Пад загалоўкам „Klęska i Triumf“, „Kurjer Wileński“ зьмясьціў у вялікодным нумары сёлета перадавы артыкул. У гэтым артыкуле многа глыбокіх і стройных думак, якія можна датасаваць ня толькі да польскага, але і агульна чалавечага, а ў тым ліку і беларускага жыцьця. Падаём гэты артыкул у даслоўным перакладзе, як вялікодныя думкі на каталіцкі і праваслаўны Вялікдзень. Рэдакцыя.*

Тыдзень, які сягоньня абходзім з усім хрысьціянскім сьветам, называецца Вялікім тыднем. Бо сапраўды—гэны Пасхальны тыдзень 33 году нашай эры быў у Ерусаліме найбольшым тыднем падзеяў усяго чалавецтва. Быў тыднем найбольшага Паражэньня, найбольшага Злачынства, найбольшай Ахвяры і найбольшага Трыумфу.

Хрыстос, бяручы пачалавечаму, прайграў. Прайграў зусім. Яшчэ ў прошлую нядзелю ўяжджаў у сьцены Гораду як Трыумфатар. Уяжджаў пасярод шалёнага энтузыязму Натоўпу, па дарозе ўсланай рукамі вызнавальнікаў, пасярод зялёнага лесу пальмаў. Крыклівы, асьлеплы, пранятый захапленьнем і любоўю Натоўп вітаў Яго як Валадара. Па некалькіх днёх Ненавісьць забіла Любоў, Паганьбеньне забіла Славу, Матэрыя здавалася забіла Духа. Хрыстос, які меў за сабою грамады, калі павіс на Крыжы, меў адно Матку і Вучня...

Нават той, што быў вызначаны на Павадыра, на Пастыра, на Айца, нават той найгарачэйшы, здавалася, і найвярнейшы адрокся ад Яго трэйчы. Крыж быў дрэвам Ганьбы, Злачынства і Паніжэньня. Крыж быў найболей ганьбячай Шыбяніцай. Крыж быў поўным, цэлым Прайграньнем, а стаўся знакам Перамогі і Славы. Бо па сьмерці прыйшло Ускрасеньне.

І гэта была поўная перамога. Як надчалавечай была Ахвяра і Пасьвячэньне, так надчалавечым быў Трыумф. Уся Матэрыя злучылася, каб Цела асталося Пылам. Магіла, высечаная ў моцнай скале, была прывалена Каменем. Пільнаваў Яго знак найвышэйшай улады — рымская Пячаць. Сьцераглі Яго рымскія Жаўнеры. Агляд Божы хацеў, каб гэтае Цела, прабітае Цьвякамі і Дзідаю, мела процiў сябе ўсю зямную сілу.

І прыйшло найбольшае ў падзеях сьвету Сьвітаньне. Сьвітаньне, якое ўспамінаем з пашанай, якое сьвяткуем з радасным Альлелюя. Сьвітаньне, ў якім трэснулі Пячаці, зваліўся Камень і адыйшлі назад рымскія Жаўнеры. Сьвітаньне, калі Хрыстос выйшаў, як Трыумфатар.

Да Укрыжаванага крычаў натоўп: „Зыйдзі з Крыжа“, быццам Ён ня мог гэтага зрабіць. Але тады ня было-б Ахвяры. Хрыстос жадаў выпіць сваю Чару да дна, жадаў прайсьці ўвесь свой Шлях. Але закончыў яго Трыумфам, так надчалавечым, як надчалавечай была Ахвяра.

* * *

Змаганьне трывае. Ненавісьць, Сіла, Матэрыя змагаюцца з Любоўю і Духам. І тыя, што вераць у сілу Духа, як часта губляюць гэту веру! Паражэньне столькі разоў заглядае ім у вочы, паражэньне поўнае і безапэляцыйнае, паражэньне ганьбячае і сьмяротнае. Сілы, з якімі яны змагаюцца, маюць нярaз за сабою ўсю моц. Прад імі нярaз відаць толькі знамя Сьмерці і Ганьбы—знак Крыжа.

Хрыстос прыйшоў на сьвет ня толькі, каб даць нам Збаўленьне. Прыйшоў і на тое, каб даць нам Навуку. Вучыў Словам на рынках жыдоўскіх мясьцін, на рыбацкіх лодках, у дамох патрыцыяў і бедакоў, у полі і ў Сьвятыні. Але Хрыстос вучыў так жа Прыкладам свайго Жыцьця і свайго Крыжа. Найбольшай навукай ёсьць Вялікі Тыдзень. Хрыстос навучыў сваіх вызнавальнікаў праігрываць і навучыў перамагаць.

І дзеля гэтага Ягоная Сьмерць і Ягонае Ускрасеньне ўзмацоўвае нам веру і серца. Бо што значыць Прайграньне! Хрыстос меў процiў сябе Натоўп, каторы дамагаўся Ягонай сьмерці; і Грошы, за каторыя быў прадaны; і Сілу, якой ужыў Пілат, калі выдаў прысуд на Нявіннага; і Вастрыё Дзіды, якое прабіла Яму Сэрца. Уся аграмадная, магутная Імпэрыя змовілася процiў Яго. Змовіліся процiў Яго і Трусьлівасьць і Сіла, і Гвалт і Ненавісьць. Сатана даканаў на Ім сваей помсты: калі Хрыстос адкінуў на пустыні ўладу над сьветам, Сьвет адрокся ад Яго, зганьбіў, замучыў, зрабіў сьмерць. Але Хрыстос ішоў простаю дарогаю да Перамогі—праз Паражэньне.

Хрыстос навучыў нас не баяцца Паражэньня, якое ёсьць зданьню. Бо зданьню ёсьць яно заўсёды, калі Дух ня ўгнецца і ў часіне найбольшага Трыумфу Матэрыі будзе ісьці да Перамогі. Бо паражэньнем у змаганьні з Матэрыяй ня ёсьць падданьне таго, што ёсьць у нас з Матэрыі, але таго, што ёсьць у нас з Духа. Паражэньнем ёсьць усякі кампраміс, усякая здрада ўласнага шляху, усякае ўсьвячэньне сродкаў, усякае імкненьне да перамогі праз Нягоднасьць.

Нярaз нам здаецца, што здрада Ідэалу ёсьць канечнасьцяй Жыцьця, што без кампрамісу з сумленьнем ня дойдзем да мэты. Але гэта ёсьць зыход з адзінага праўдзівага шляху: з таго шляху, які — хаця-б праз паражэньні — ўканцы заўсёды вядзе да Перамогі.

* * *

Міне Вялікі Тыдзень і міне Сьвята Ускрасеньня. Будзьма пэўнымі: чакаюць на нас дні Паражэньня. Усё нам будзе рвацца ў руках, Сіла будзе выдавацца трыумфуючай. Прайграем, калі не здабудзем гэтай вялікай штукі перамаганьня, якую нам паказаў Хрыстос уласным Прыкладам, а якой імя: Няўгнутасьць Духа. Прайграем, калі даверымся толькі сілам Матэрыі, бо сыны Цемры ёсьць болей змышлёнымі. Прайграем, калі падзелім год на Вялікі Тыдзень і будзённыя дні. Але выйграем, напэўна выйграем, калі будзем ісьці несагнутыя за Тым, каторы навучаў нас не баяцца прайграньня, каб ўканцы перамагчы.

## Зямельная рэформа і беларускае сялянства.

Беларускае сялянства, якое творыць вялізарную большасьць беларускага народу, заўсёды адчувала нястачу зямлі і *зямельнае пытаньне для нашага селяніна было найважнейшым.* Трэба аднак сьцьвердзіць, што да сусьветнай вайны існавалі прычыны, каторыя гэты голад часткова здавальнялі. Перш за ўсё былі шырокія магчымасьці эміграцыі ў глыбіню Расеі, асабліва ў Сібір, ды ў Паўночную Амэрыку. Сялянін, які да вайны меў гаспадарку, прыкл. з 7 дзесяцін, часта лічыў яе на толькі малой, што кідаў і выяжджаў у сьвет шукаць лепшай долі. Існавалі такжа вялікія магчымасьці, асабліва для моладзі, выезду ў расейскія гарады на заработкі. Часта можна было спаткаць вёскі, з якіх уся моладзь выяжджала, а на гаспадарцы аставаліся старыкі з гэткай колькасьцю маладых рук, якая была неабходна дзеля працы на гаспадарцы. І хоць эміграцыі ня можна лічыць зьявішчам карысным для народу, бо адбірае яна можа найэнэргічнейшую яго частку, ўсё-ж трэба сказаць, што дзякуючы эміграцыі да вайны патрэба зямлі не адчувалася вёскай надта востра.

Зусім інакш злажыліся абставіны пасьля вайны. Беларусь была падзелена на часткі і жыцьцё ў кожнай частцы пайшло іншым парадкам. Інакш такжа злажыліся і зямельныя адносіны. Тут мы спынімся над зямельнымі адносінамі бел. сялянства *ў Польшчы.*

Пасьля вайны для бел. сялянства ў Польшчы спынілася магчымасьць эміграцыі ня толькі ў Расею, але і ў Амэрыку. Спынілася такжа і магчымасьць выезду у гарады Польшчы на заработкі. Яшчэ горш—у гэтых гарадох паўсталі масы безработных, з каторымі дзяржава мае вялікі клопат. Былі нават галасы, каб гэтых безработных перакінуць на вёску. Гэткім парадкам увесь прырост беларускага сялянства астаецца на вёсцы. Маем зьявішча, калі стан уладаньня бел. сялянства блізу што не павялічваецца, тады як насельніцтва ўзрастае даволі шпарка. Абавязваючыя ў Польшчы законы аб зямельнай рэформе, камасацыя, не здаваляюць нястачы зямлі, голад якой усё расьце. Праўда, некаторыя сяляне пашырылі свае гаспадаркі шляхам куплі зямлі, аднак колькасьць гэткіх гаспадароў надта малая і пры разважаньні зямельнага пытаньня ня можна іх паважна прыймаць пад увагу. Агул бел. сялянства ня купіў нічога. Як натуральны рэзультат гэткага стану рэчаў мы бачым усё далей ідучае драбненьне сялянскіх гаспадарак шляхам сямейных падзелаў. І калі запраўды да вайны селянін часта кідаў гаспадарку з 7 дзес., дык цяпер гэткі селянін лічыцца ўжо паважным гаспадаром. Затое ўсё часьцей спатыкаюцца „гаспадары“, якіх літэральна дзесятак можна зьмясьціць на адным гэктары. Гэтая беднота ня мае выхаду. Праўда, чуецца часта і цяпер аб магчымасьцях выезду ў Францыю на работы, ў Паўдзённую Амэрыку, ды ў ня так далёкую Латвію, аднак колькасьць гэткіх эмігрантаў надта малая, бы і эміграцыя гэта толькі сэзановая. Гэткі стан выклікаў нязвычайную галіту на вёсцы.

Трэба адцеміць, што мала лепшыя зямельныя адносіны існуюць і сярод польскага сялянства. Гэтым аб'ясняецца, што апошнім часам пачуліся гутаркі аб тым, што ўрад (мін. Панятоўскі) мае намер правесьці зямельную рэформу ў агульна-польскім маштабе. Праўда, пакуль што з гутарак гэтых нічога канкрэтнага няма, аднак выклікалі яны рэха ў польскай прэсе ўсіх кірункаў. З гэтага гледзішча галасы польскай прэсы можна падзяліць на наступныя тры кірункі:

1) рэформа бяз выкупу (за якую стаяць некаторыя левыя польскія групы);

2) частковая рэформа з выкупам (рэпрэзэнтаваная „Направай“ і якой, здаецца, трымаецца мін. земляр. Панятоўскі ды магчыма новаствораны Лагер Нар. Аб'еднаньня палк. Коца);

3) устанаўленьне абмяжаванае колькасьці самастарчальных непадзельных вясковых гаспадарак (за што стаіць прэса правых кірункаў).

Першыя два праекты не папрабуюць выясьненьня, а сутнасьць апошняга зводзіцца да таго, што асобны закон устанавіў-бы найменшую плошчу сялянскай гаспадаркі, якой ужо дзяліць ня можна і якая пераходзіла-б ад бацькі да аднаго з сыноў. Гэткімі гаспадаркамі пакрылася-б уся Польшч. Правая прэса ахвотна трымаецца гэтага трэцяга праэкту таму, што ён не абавязкава чапаўбы дворныя абшары, бо завэдзены быў-бы на сялянскіх зем-

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

### Сьвяткаваньне 19-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Беларусы ў Вільні і на правінцыі ладзілі сёлета, як і кожны год, сьвяткаваньне Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка. Аднак сёлета гэтае сьвяткаваньне, з незалежных ад Беларусаў прычын, адбывалася ня так урачыста, як у мінулыя гады. У гэты дзень, на інтэнцыю Беларускага народу, у Пятніцкай царкве ў Вільні адбыўся малебен, а пасьля ў залі на Завальнай 1, паседжаньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Заграніцай (Чэхаславаччына і інш.) сьвяткаваньне адбывалася болей ўрачыста.

Пажадана, каб на будучы год, калі прыпадаюць 20-тыя ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці, Беларусы ў меру магчымасьці адсьвяткавалі гэты дзень болей урачыста.

### Суд над рэдактарам „Бел. Фронту“.

Дня 22. III. г. г. адбыўся ў Віл. Акружным судзе працэс над рэдактарам нашага часапісу В. Папуцэвічам. Вінавацілі яго з арт. 154 к. к. (заклік да праступку) ў сувязі з арт. 93 (адарваньня ад Польскай Дзяржавы земляў, заселеных Беларусамі).

Пасьля звычайных, уступных даведак аб асобе падсуднага, быў адчытаны *акт абвінавачаньня* такога зьместу: „У рэдакцыйным артыкуле „Залежнасьць ці незалежнасьць“, зьмешчаным у № 3 „Бел. Фронту“ з дня 5. VIII. 1936 г. цьвердзіцца, што ня ўсе Беларусы разумеюць патрэбу „поўнай незалежнасьці Беларусі“ і, аглядаючыся на Усход ці на Захад адтуль чакаюць „вызваленьня ад усялякай нядолі“, хоць, паводле аўтара артыкулу, ані фашысты ані камуністы ня маюць права накідаць Беларусам свайго грамадзкага і палітычнага ладу. Далей у зьмесьце гэтага артыкулу падчырківаецца, што варункам здабыцьця „поўнай незалежнасьці“ ёсьць: 1) сьведамая і здэцыдаваная воля народу здабыць незалежнасьць і 2) акт гэтай сьведамасьці і здэцыдаванай волі ў адпаведны час; пробаў гэтага трэба дагледзецца ў натугах тварэньня ў 1917 г. беларускага войска і ў арганізаваньні аружнага паўстаньня ў 1920 г. ў Случчыне. У далейшым працягу аўтар разважае, ці ў сучаснасьці Беларусы ў сваей масе маюць гэтую здэцыдаваную волю, прыходзіць да вываду, што не, і сьцьвярджае, што адзіным спосабам здабыцьця незалежнасьці ёсьць апора на актыўнай сіле народу, ўсьведамленьне гэтай сілы, арганізаваньне яе, буджэньне народнай волі, апрацоўваньне пляну дзеяньня і шуканьне саюзьнікаў— а час ужо пакажа, што трэба рабіць. Гэтае сваё становішча аўтар даказвае цьверджаньнем, што сапраўдная незалежнасьць не даецца, а бярэцца... і ўканцы заяўляе, што прапагандзе справы незалежнасьці Беларусі ў вышэй пададзеным уняцці служыць часапіс „Беларускі Фронт“.

„Гарадзкі Староста дагледзеў у зьмесьце гэтага артыкулу заклік да адарваньня часьці абшару Польскай Дзяржавы і № 3 „Бел. Фронту“ сканфіскаваў, а Акружны суд дня 3.IX.1936 г. канфіскату пацьвярдзіў. Сканфіскаваны нумар быў надрукаваны ў 1000 экзэмплярах, з якіх палавіну распаўсюджана«.

Пасьля адчытаньня акту абвінавачаньня даваў свае выясьненьні *В. Папуцэвіч*, які да віны не прызнаўся і заявіў, што зусім не імкнуўся і не заклікаў да адарваньня ад Польшчы зямель, заселеных Беларусамі. Каб зразумець сэнс артыкулу „Залежнасьць ці незалежнасьць“, трэба глыбей глянуць у сяньняшняе бел. жыцьцё, якое з аднаго боку падлягае камуністычным уплывам, а з другога — фашыстоўскім. Супроць інтэрнацыянальных „людовых» ці іншых фронтаў трэба было паставіць нацыянальны, беларускі фронт. Сканфіскаваны артыкул меў на мэце незалежнасьць ідэолёгічную ад чужых і варожых для нас кірункаў: камунізму і фашызму. Тварэньне бел. войска ў Менску і Слуцкае паўстаньне мела на мэце незалежнасьць ад камунізму. Не гаворыцца ў сканфіскаваным артыкуле ані аб граніцах Беларусі, ані аб аружным паўстаньні проціў Польшчы, ня верыцца нават у вайну, як у спосаб рэалізацыі беларускіх пажаданьняў. Сказ, што „сапраўдная незалежнасьць не даецца, а бярэцца“, ёсьць адным з тэорэтычных аргумэнтаў супроць чужацкіх арґентацыяў. Гэтакі-ж тэорэтычны характар носіць і ўвесь артыкул, які ёсьць гістарычна-псыхолёгічнай сынтэзай беларускіх імкненьняў да незалежнасьці у мінуўшчыне, а ў сучаснасьці гаворыць аб патрэбе незалежнасьці ад камунізму і фашызму.

Пасьля выясьненьняў падсуднага паказвалі *сьведкі*. Урадавец сьледчай паліцыі, *Бартош*, казаў, што група „Б. Фронту“, да якой належыць падсудны В. Папуцэвіч, варожа настаўлена да Польскай Дзяржавы. Калі-ж у яго спытаўся суд аб фактах гэтай варожасьці, сьведка нічога канкрэтнага аб фактах сказаць ня мог. На пытаньне, ці ёсьць якія факты варожасьці В. Папуцэвіча да Польскай Дзяржавы, сьведка адказаў, што не занатована.

Другі сьведка *кс. В. Гадлеўскі*, паказаў, што сканфіскаваны нумар „Б. Фронту» ня быў распаўсюджаны, бо ў яго прысутнасьці ўвесь наклад быў забраны паліцыяй.

*Пракурор* гаварыў коратка: ён прадусім адзначыў інтэлігенцыю падсуднага і зрабіў вялікі націск на той сказ у сканфіскаваным артыкуле, дзе гаворыцца, што сапраўдная незалежнасьць не даецца, а бярэцца.

*Адвакат Бр. Аляхновіч* у даўжэйшай і стройнай прамове выказваў адсутнасьць прымет праступку ў гэным артыкуле, бо ў ім не паказаны ані граніцы незалежнай Беларусі, ані гвалтоўныя спосабы рэалізацыі гэтай незалежнасьці. Там сказана толькі аб патрэбе гэтай незалежнасьці. А мо-

---

лях. Паводле іх, трэба было б зьмяніць адпаведна права спадкаемства і забараніць падзелы. Надвыжка сялянскага насельніцтва пры гэтым праекце павінна была-б шукаць сабе выхаду ў гарадох шляхам апанаваньня гандлю і рамясла, якія знаходзяцца ў жыдоўскіх руках.

Апрача таго прэса правых напрамкаў адносна г. зв. „усходніх крэсаў“ піша, што калі там і трэба праводзіць якуюсь зямельную рэформу, дык толькі з мэтай павялічэньня польскага элемэнту, аб'ясьняючы патрэбу гэтага інтарэсамі Польскае дзяржавы, а такжа і тым, што дворныя землі, якія на „крэсах“ знаходзяцца ў руках польскіх абшарнікаў, павінны перайсьці ў польскія-ж рукі. Польская прэса іншых кірункаў, да левай уключна, відавочна супроць гэтага нічога ня мае, бо ня выказалася, што гэта было-б крыўдна для мясцовага беларускага сялянства. Заслугоўвае на ўвагу факт, што нават жыдоўская газэта „Chwila“, баронячы жыдоўскага гандлю і рамясла ў гарадох перад польскім канкурэнтам, некалькі месяцаў таму пісала, што надмер польскага малазямельнага і беззямельнага сялянства трэба скіраваць на „ўсходнія Крэсы“, на дворныя абшары, на што „Дзеннік Віленскі“ адказаў, што гэта сваім парадкам, а польшчаньне гандлю ў гарадох павінна ісьці сваім чарадом.

*Гэтак прадстаўляецца пакуль-што справа зямельнай рэформы ў Польшчы наагул і зямельныя адносіны бел. сялянства ў асобнасьці.* Закранулі мы гэтую справу ня толькі з мэтай паінфармаваць нашых чытачоў, але каб выказаць *і свае становішча* ў гэтай важнай справе.

Зямельная рэформа для бел. сялянства бязумоўна неабходна. Але якая гэта мае быць рэформа? З усіх трох пералічаных кірункаў мы можам выказацца толькі за першы—інакш *за рэформу бяз выкупу*. Калі раней некаторыя палітыкі, кажучы аб зямельнай рэформе з выкупам, маглі лудзіцца' што сялянства зможа зямлю выкупіць, дык сягоньня аб гэтым паважна гаварыць нельга, бо сялянства перайшло ўжо тую мяжу, калі яшчэ можна было думаць аб нейкіх ашчаднасьцях на куплю зямлі ці сплату, скажам, зямельных пазыкаў. Сягоньня штодзённым клопатам нашага селяніна і яго сям'і ёсьць, каб як небудзь пражыць, а ня то што зьбіраць грошы на куплю. Прыняўшы гэты прынцып трэба яшчэ азначыць *maximum* і *minimum* дапушчальнага ўладаньня. Азначаючы *maximum* уладаньня, тым самым азначаецца абшар, які павінен быў-бы адыйсьці на мэты зямельнае рэформы, азначаючы-ж *minimum*, азначаюцца тыя гаспадаркі якія патрабуюць прырэзкі зямлі. Азначэньне гэтых межаў, як часта робіцца, ў гэктарах ці дзесяцінах, яшчэ нічога ня кажа і, на наш пагляд, трэба было-б тут трымацца прынцыпу, што, апрача беззямельных сялян, прырэзак зямлі павінны атрымаць тыя гаспадаркі, якія ня могуць пракарміць працуючых на ёй уласьніка і сям'і, а найвялікшай гаспадаркай можа быць пакінена толькі гэткая, якую яшчэ здолее абрабляць уласьнік з сям'ёй бяз помачы наймітаў. *Зямля ня можа быць сродкам дзеля эксплёатацыі адных другімі* і толькі тады, калі дзейнік эксплёатацыі будзе цалком выключаны, зямельная рэформа будзе ў прынцыпе справядлівай.

З зусім зразумелых прычын бел. сялянства ня можа згадзіцца, каб запас зямлі на г. зв „крэсах“ мелі-б атрымаць, скажам, беззямельныя з этнаграфічнай Польшчы. Гэткая рэформа, зразумела, абмінула-б нашае сялянства і прынясла-б рэзультаты значна горшыя ад тых карысьцяў, якія маюць на мэце ейныя прыхільнікі.

*М. Ш.*

---

# Змаганьне сталінізму з трацкізмам.

Апошнія падзеі ў Саветах сьведчаць аб тым, што змаганьне паміж Сталіным і Троцкім, якое пачалося па сьмерці Леніна за спадчыну па ім, ня толькі не аслабела, але яшчэ болей узмаглося. Апошнія два вялікія працэсы: з жніўня мінулага году, калі было растраляных 16 чалавек старых бальшавікоў, у тым лікуЗіноўеў і Каменеў, і працэс з студня г. г., калі былі растраляны Пятакоў і Серабракоў, паказалі, што змаганьне паміж сталінізмам і трацкізмам праводзіцца не на жыцьцё, а на сьмерць.

Пасьля выгнаньня Льва Троцкага з СССР усе думалі, што прыхільнікі Троцкага ў Саветах зьліквідуюцца самі сабою і Сталін астанецца адзіным валадарам кам. партыі, а праз яе і ўсягоСавецкага Саюзу. Аднак сталася інакш. Стары Леў Троцкі аказаўся небясьпечным нават на выгнаньні. Прабываючы спачатку ў Турцыі, потым у Францыі, Нарвэгіі, а ўрэшце ў Мэксыцы, ен не пераставаў вясьці падрыўное работы адносна сталінаўскае палітыкі і падтрымліваў цесныя зносіны з сваімі прыхільнікамі на тэрыторыі Саветаў. На грунце міжнародным Троцкі ня меў надта вялікіх уплываў: ягоная арганізацыя і ягоная прэса ніколі ня былі так моцнымі, як арганізацыі і прэса Сталіна. І гэта зразумела—на арганізацыйную работу і на прэсу патрэбны грошы, якіх ў Троцкага ня было... Затое ў Саветах трацкісты патрапілі разьвярнуць шырэйшую акцыю, асабліва пасярод старых бальшавікоў, прафэсыянальных рэвалюцыянэраў, якія ўсё сваё жыцьцё пасьвяцілі ідэі рэвалюцыі. Яны, памінаючы будаўніцтва сацыялістычнай дзяржавы ў адной Расеі, хацелі чымскарэй пашырыць пажар камуністычнай рэвалюцыі на ўвесь сьвет... Але ня толькі пасярод старой ленінскай гвардыі Троцкі меў уплывы, ён пашыраў іх і ў камуністычных нізох; даволі ўспомніць, што ў адным толькі 1935 годзе, паводле савецкай сталінаўскай прэсы, было на чыгунках аж 2500 актаў сабатажу з боку трацкістаў!.. Мы ня верым у гэты аграмадны лік сабатажнікаў-трацкістаў, бо інакш трэба было-б прыйсьці да вываду, што ўвесь савецкі Саюз падмінаваны трацкістамі. На наш пагляд, акты сабатажу выконываюць усе ворагі савецкай улады, пачынаючы аб сацыялістаў і кончачы на манархістах, а савецкая ўлада, хочучы расправіцца з трацкістамі, усе гэныя акты ўзваліла на трацкістаў. Гэтым яна хацела знайсьці віноўнікаў усіх непаводжаньняў у сацыялістычным будаўніцтве і адначасна ачарніць трацкістаў у вачах пралетарыяту, каб пасьля зьліквідаваць іх і моральна і фізычна...

Прыгледаючыся да такога заўзятага змаганьня двух зродных кірункаў камуністычнай думкі, паўстае пытаньне, *якія прычыны* маглі выклікаць такі разлад у камуністычнай партыі і *ў чым сутнасьць іхнага разладу*?

Прычыны змаганьня паміж трацкізмам і сталінізмам ляжаць ня толькі ў *асабістай рывалізацыі* Троцкага і Сталіна, але і ў *ідэолёгічных рожніцах.*

Калі яшчэ жыў Ленін, ён сваім аўторытэтам уцішаў усе асабістыя і прэстіжовыя спрэчкі ў нутры кам. партыі. Па сьмерці-ж Леніна палажэньне зьмянілася: павадыры камунізму пачалі змаганьне за спадчыну па тварцы расейскага бальшавізму і гэтым самым за ўладу. А, як ведама, змаганьне за ўладу заўсёды бывае найболей заўзятым і найболей крывавым. Прыгэтым кожны павадыр пасвоему разумеў навуку Маркса і Леніна; кожны паводле свайго разуменьня тварыў такжа далейшыя пляны палітычнай дзейнасьці і да свайго кірунку стараўся здабыць найболей прыхільнікаў. Пагадзіць іх пагляды і імкненьні ўжо ня было каму — і гэтакім парадкам пачалося змаганьне.

Але мыляўсяб той, хто-б думаў, што змаганьне паміж Троцкім і Сталінам мае *толькі* асабісты характар; яно мае такжа і глыбокія ідэолёгічныя падставы.

У чым-жа сутнасьць разыходжаньня паміж сталінізмам і трацкізмам?

Пачнём ад трацкізму. Сам Сталін на XVI з'езьдзе кам. партыі ў 1930 г. гэтак схарактэрызаваў ідэолёгію трацкізму: *сутнасьць трацкізму* — казаў Сталін — перш за ўсё ў тым, што ён адкідае магчымасьць збудаваньня сацыялізму ў СССР сіламі работніцкай клясы і сялянства. Гэта значыць, што калі ў найбліжэўшым часе не надыйзе помач у форме сусьветнай рэвалю-

жа прыйсьці такая часіна, казаў адв. Б. Аляхновіч, што для Польшчы будзе якраз карысна гэтая незалежнасьць і Польшч яе сама прызнае. У сказе, што сапраўдная незалежнасьць не даецца, а бярэцца, няма праступку, бо ў ім выражана толькі тэорыя, а тэорэтычныя разважаньні, нават аб сацыяльнай рэвалюцыі, паводле суджэньня Найвышэйшага Суду, не падлягаюць кары —і дзеля гэтага просіць унявіньніць падсуднага.

Пасьля нарады, Судом быў абвешчаны *прысуд,* на падставе якога В. Папуцэвіч быў асуджаны на адзін год турмы з спыненьнем (»завешэньнем«) прысуду на 5 гадоў.

Падсудны падае апэляцыю.

### Беларусы і Пушкін.

Стагодні юбілей ад дня сьмерці расейскага народнага паэта Пушкіна абходзілі ўсьлед за расейскім грамадзянствам і некаторыя Беларусы ў Вільні. Дня 14. III. г. г. была наладжана ў залі на Завальнай 1 адумысловая акадэмія, на якой В. Багдановіч прачытаў лекцыю аб Пушкіне, І. Хвораст дэклямаваў у расейскім арыгінале некаторыя творы Пушкіна, а М. Танк – такія-ж творы ў беларускім перакладзе. Публікі на акадэміі было мала, бо віленскія Беларусы ніяк не маглі зразумець патрэбы сьвяткаваньня Пушкіна, які пісаў, што „все славянские ручьи сольются в русском море". Арганізатары акадэміі тлумачыліся тым, што яны хацелі ўшанаваць памяць Пушкіна, як мастака. Але нам здаецца, што хочучы ўшанаваць усіх мастакоў усіх народаў, трэба было-б ладзіць акадэміі вельмі часта, аднак аб гэтакіх ладжаньнях мы дагэтуль ня чулі, з вынаткам акадэміі ў чэсьць Пушкіна. Чаму такі вынятак? Усім-жа ведама, што Пушкін, апроч свайго сапраўднага мастацтва быў і ёсьць яшчэ расейскім нацыянальным паэтам, а нават прадстаўніком расейскага вялікадзяржаўніцтва, прызнаным ня толькі даўнейшым царскім урадам, але і сяньняшняй сталінаўскай палітыкай.

### Іх адказ на нашу крытыку.

У прошлым нумары „Б. Фронту" мы зьмясьцілі крытыку „Самапомачы" і „Хр. Думкі", выказваючы зусім рачова і аб'ектыўна, бяз ніякіх асабістых прытычак, пахібы як аднаго так і другога часапісу. Уважаем, што ўсе чалавечыя творы ня ёсьць дасканальны і вымагаюць паправак, праверкі мэтадаў і кірунку, адным словам, вымагаюць крытыкі. Гэтаксама, мусіць, думаюць і рэдактары ўспомненых часапісаў, бо ў мінулым годзе наладзілі нават адумысловую анкету, просячы чытачоў падаць свае ўвагі і пажаданьні.

На наш пагляд, кожнае публічнае выступленьне (прамова, газэта, кніга) падлягае крытыцы і за гэтакую крытыку, калі яна ёсьць рачовай, ня толькі ня трэба гневацца, але падзякаваць або рачова на яе адказаць. Тымчасам рэдакцыі гэных часапісаў падыйшлі да справы зусім інакш: „Самапомач" адказала нам, што рэдактары „Б. Фронту", крытыкуючы „Самапомач" „заўстыдаліся і пахаваліся", а „Хр. Думка" паслала нас у пекла на вечныя мучэньні... І толькі на гэтакі адказ здабыліся абедзьве рэдакцыі... Якая-ж убогасьць думак! Прыгэтым Лявон Ветрагон залічыў сябе да мастакоў, роўных Міхалу Анелу Буанаротті! Ці не завялікая прэтэнсія? Можа лепш было-б, каб самі чытачы ягоных вершаў судзілі аб ягоным мастацтве?

Мы, займаючы ў беларускім руху незалежнае становішча, заўсёды будзем з гэтага становішча разглядаць бел. жыцьцё, не праймаючыся тым, ці наша крытыка каму падабаецца ці не.

## З жыцьця БССР.

У сувязі з апошняй чысткай у камуністычнай партыі СССР зволнены з становішча сакратара Кам. Партыі Беларусі *М. Гікала.* Чыстка гэта зьвязана з г. зв. „дэмакратызацыяй" камуністычнай партыі, каторая, як падаюць газэты, мае на мэце шляхам новых выбараў абсадзіць усе становішчы ў партыі адданымі Сталіну людзьмі. Гікала, з паходжаньня Каўказец, такжа быў адданы Сталіну і правёў у БССР ліквідацыю г. зв. „нацдэмаўшчыны" (бел. нацыянальнага кірунку). Звольнілі яго таму, што ён аказаўся паводле савецкай прэсы, «тупым бюракратам» і што за яго часаў падупала дзейнасьць КПЗБ у межах Польшчы ды надта адарвалася сама Кам. Партыя Беларусі ад масаў.

— Зволнены такжа нядаўна назначаны з Масквы Камісар Унутр. Спраў БССР *Молчанаў,* як падаюць, дзеля таго, што за яго часаў сталіся магчымымі гэткія надужыцьці, якія выявіліся на нядаўняшнім працэсе г. зв. „савецкіх самадураў" у лепэльскай акрузе: Русанава, Пацэнгеля, Сямашкі і інш.. Гэтыя „самадуры", як іх называе савецкая прэса, будучы партыйнымі камуністамі, спаганяючы падаткі і грашовыя кары з калхозьнікаў і адзіналічнікаў (паасобных гаспадароў), дапусьціліся шмат разнаякіх надужыцьцяў, выклікаўшых абурэньне пакрыўджаных сялян, ад каторых адбіралі ўсё. Суд пакараў абвінавачаных (15. III. 37 г.) ад 6 мес. да 2 г. турмы, а парт. улады звольнілі Молчанава.

— Як падаюць газэты, ў Менску Акадэмія Навук БССР спыніла далейшае выдаваньне беларускай савецкай *энцыклёпэдыі,* быццам з тэй прычыны, што ў дабіраньні матэрыялаў да яе прыймалі ўдзел «ворагі народу».

*ГРАМАДЗЯНЕ!*

*Ці Вы ўжо прыслалі падмогу на »Бел. Фронт»? Калі яшчэ не, дык на кожнай пошце дастанеце за 1 грош „przekaz rozrachunkowy", напішэце на ім наш а д р а с: Wydawnictwo „Białaruski Front", W i l n o, ul. Ostrobramska 2—11, п а с т а ў ц е Nr. rozrachunku: 100 і прышлеце нам падмогу, сколькі можаце. Перасылка грашэй да 15 зл. „p r z e k a z e m r o z r a c h u n k o w y m" не каштуе нічога. Дык адгукнецеся на нашу просьбу чымскарэй!*

*Помніце, што незалежная прэса існуе толькі пры помачы незалежнага грамадзянства!*

# На міжнародным грунце.

*(Агляд міжнароднай палітыкі за месяц сакавік).*

### Гішпанія.

Пачынаем ад гішпанскіх падзеяў, якія найболей зварочваюць увагу палітычных кругоў.

Унутры Гішпаніі крывавае змаганьне цягнецца далей з зьменным шчасьцем. У першай палавіне сакавіка паўстанцы задумалі вялікі манэўр, каб акружыць Мадрыт. З гэтай мэтай яны павялі наступ з поўначы на г. Гвадаляхару і з поўдня каля ракі Харамы. У радох паўстанцаў быў вялікі працэнт італьянцаў. Спачатку паўстанцам пашчасьлівіла і яны дайшлі да г. Гвадаляхары. Але чырвоныя, ня хочучы дапусьціць да акружэньня Мадрыту, кінулі на загрожаны адцінак фронту найлепшыя свае рэзэрвы і нават узялі з мадрыцкага фронту міжнародную брыгаду, якая ўславілася пры абароне Мадрыту. Наступ паўстанцаў быў ўстрыманы і чырвоныя нават перайшлі ў контратаку і адціснулі паўстанцаў назад, бяручы значны лік італьянцаў у палон. Тады на помач паўстанцам пасьпяшылі немцы, якім і ўдалося ўстрымаць наступ чырвоных.

Кажуць, што ў Гішпаніі цяпер ваюе штораз меней гішпанцаў, а штораз болей чужынцаў (па 50 тысяч на кожнай старане), якія ня толькі маюць на мэце свае палітычныя інтарэсы, але хочуць такжа выпрабаваць сваё новае ўваружэньне, асабліва аэраплянаў, танкі, зэнітныя гарматы для зьбіваньня аэраплянаў і г. д. Дык гішпанскія падзеі яшчэ можна разглядаць, як вялікія міжнародныя манэўры, якія маюць падгатовіць дзяржавы да будучай «сапраўднай" вайны... Сілы кожнай ваюючай стараны ў Гішпаніі бадай роўныя і дзеля гэтага вайна так доўга трывае.

Паўстанцы, ня могучы ўзяць Мадрыту, пачалі ў апошнім часе атакаваць Баскаў, якія імкнуцца да поўнай незалежнасьці. Гэтым сваім паступкам паўстанцы прыносяць вялікую крыўду малому але геройскаму Баскійскаму народу, які хоча быць, так як і ўсе народы, вольным і незалежным. Баскі бароняцца як львы, але пад напорам пераважаючых сіл адступаюць. Магчыма, што паўстанцы маюць на мэце здушыць Баскаў, каб потым перакінуць свае войскі на мадрыцкі фронт.

Кантролю, якую былі пастанавіўшы на камітэце дзеля неінтэрвэнцыі ў Лёндыне, ня ўвялі цалком у жыцьцё. Нібы спынілі набор і высылку ў Гішпанію „ахвотнікаў", але ўваружэньне і амуніцыю прапускаюць. Калі на камітэце была паднята справа адкліканьня «ахвотнікаў" з самой Гішпаніі, дэлегат Італіі заявіў, што італьянскія ахвотнікі ня будуць адкліканы аж да аканчальнай перамогі над чырвонымі...

### Італія і Англія.

Ад абісынскай вайны пачало расьці напружаньне адносін паміж Італіяй і Англіяй. Як ведама, Італія забрала Абісынію супроць волі Англіі. Аднак, калі Муссоліні заявіў, што Італія ўжо можа залічыць сябе да дзяржаў „здаволеных", Англія пагадзілася навока з забраньнем Абісыніі і нават заключыла з Італіяй „джэнтэльмэнскі пакт", на падставе якога падзяліліся ўплывамі на Міжземным моры. Кажуць, што гэтым пактам Англія хацела адцягнуць Італію ад Нямеччыны, але калі пабачыла, што Італія і далей дружыць з Нямеччынай, пачала пляновую проціталійскую палітыку, украпляючы Мальту, Гібралтар, і Суэз і нават запрашваючы нэгуса на каранацыю караля Юрага VI... Італія вызаў прыняла і адказала тым, што таксама пачала украпляцца

цыі, дык камунізм прымушаны будзе скапітуляваць перад буржуазіяй і ачысьціць дарогу для буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі. Паводле трацкізму перш за ўсё трэба правесьці сусьветную рэвалюцыю, а тады ўжо будаваць сусьветны камунізм. Пры такіх паглядах — пытаецца далей Сталін — ці можна распаліць у многамільённых масах энтузыязм да працы, ці можна прабудзіць сацыялістычнае спаборніцтва (выперадкі ў працы), масавае ўдарніцтва, разьвярнуць наступ на капіталістычныя кругі? Ясна, што ня можна — адказвае Сталін, бо якім парадкам работніцкая кляса зможа дайсьці да масавага спаборніцтва і энтузыязму ў працы, калі ёй гаварыцца, што ўсё гэта напрасна, бо яна сваей працай прыгатаўляе грунт для капіталізму. Каб разбудзіць у работніцкай клясе ахвоту да працы і спаборніцтва, каб разьвярнуць арганізаваны наступ, трэба было прадусім пахаваць буржуазную тэорыю трацкізму аб немагчымасьці збудаваньня сацыялізму ў адным краі...

Гэтак схарактэрызаваў трацкізм сам Сталін. Ён падаў галоўную прымету трацкізму: немагчымасьць збудаваньня сацыялістычнага ладу ў аднэй краіне бяз сусьветнай рэвалюцыі. Дык паводле Троцкага наўперад трэба правадзіць рэвалюцыю на ўсім сьвеце, а потым ужо будаваць камунізм. Сталін-жа цьвярдзіць інакш: трэба збудаваць сацыялізм у Расеі, даць прыклад камуністычнага будаўніцтва іншым народам, сабраць патрэбныя матэр'яльныя сродкі, а потым — можа надарыцца аказія і да сусьветнай рэвалюцыі... Рэвалюцыяй Сталін не ганьбуе і кідае аграмадныя грошы на агітацыю, каб падгатовіць пад яе грунт...

Трацкізм, стаўшы на грунце чымскарэйшай сусьветнай рэвалюцыі, адкідае ўсе саюзы з буржуазнымі дзяржавамі, а сталінізм гэтыя саюзы паддзержывае, асабліва з Англіяй і Францыяй, а нават уважаў за рэч патрэбную для СССР увайсьці ў буржуазную Лігу Народаў. Цяпер сталінізм пайшоў яшчэ далей, бо прапануе супрацоўніцтва з усімі буржуазнымі партыямі і групамі, якія ня маюць фашыстоўскага нахілу. „Поўны дэмакратызм" — ёсьць цяпер галоўным клічам сталінаўскай камуністычнай агітацыі па ўсім сьвеце.

Апрача рожніц паміж трацкізмам і сталінізмам у загранічнай палітыцы, ёсьць яшчэ рожніцы і ўнутраной. Трацкізм ня бачыць магчымасьці згоднага супрацоўніцтва паміж работніцтвам і сялянствам, заяўляючы, што чысты камунізм можа існаваць толькі ў пралетарскіх работніцкіх масах, а не ў дробна-буржуазных сялянскіх, якія вельмі прывязаны да прыватнай уласнасьці. Паводле трацкістаў, работнікі заўсёды будуць прымушаць сялян да камунізму і дзеля гэтага ня можа быць паміж імі поўнай згоды і даверу.

Трацкісты стаяць на грунце большага дэмакратызму ўнутры самой партыі, жадаючы поўнай свабоды выбараў на ўсе партыйныя становішчы, тады калі сталінцы дапускаюць прынцып гіэрархіі, назначэньня і ўлады вярхоў. У міжнародных адносінах трацкісты стаяць таксама за большы дэмакратызм і роўнасьць паміж усімі народамі.

*Сутнасьць сталінізму* вынікае ўжо з таго, што мы сказалі аб трацкізьме, гэта значыць: магчымасьць будаўніцтва камуністычнага ладу ў аднэй краіне; заахвочваньне работніцкіх і сялянскіх масаў да гэтага будаўніцтва, прыгэтым тасуецца спаборніцтва, стаханаўшчына і адпаведныя нагароды, нават ордэны; уваходжаньне ў саюзы з буржуазнымі дзяржавамі; навязваньне з імі палітычных і гандлёвых зносін, даставаньне ад іх крэдытаў; будаваньне па ўсіх краёх г.зв. „людовых" фронтаў або саюзаў з усімі лібэральна-дэмакратычнымі партыямі і групамі. Пры помачы прэсы і агітацыі сталінізм імкнецца да падгатоўкі сусьветнай камуністычнай рэвалюцыі. Сталінцы закідаюць трацкістам няжыцьцёвасьць іхнай тэорыі, цьвярдзяць, што яны мала зварочваюць увагі на жыцьцёвыя абставіны і падходзяць да справы болей тэорэтычна, чым практычна і могуць загубіць усе здабыткі кам. рэвалюцыі..

У рэзультаце „практычны" сталінізм перамог „тэорэтычны" трацкізм і камунізм будуецца ў аднэй краіне пад кіраўніцтвам Сталіна. З гэтага будаўніцтва выплываюць вялікія высновы, якія могуць адбіцца на далейшым разьвіцьці камунізму.

Мы ўжо адзначалі, што камунізм будуецца у адным краі, іменна ў Расеі. Дзеля таго што ён будуецца толькі там, ён штораз

